Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года

**Сёння ў нумары:**

- Уражанні і назіранні з нагоды адной прыватнай паездкі.
- Служба інфармацыі "БЖ".
- Навукова-практычная канферэнцыя ў 5-м гвардзейскім армейскім корпусе.
- У "Рамонку" весела жывецца дзецям.
- Знаёмімся з паэтычнай творчасцю Аляксандра Новіка.
- Для вас, гаспадыні.

№112 (15816) СЕРАДА, 26 ліпеня 2000 года. Цана 25 руб.

**БЕЛТА інфармуе**

## У НОВЫ ПАРЛАМЕНТ БАЛАЦІРУЕЦЦА ЗВЫШ 30 ДЭПУТАТАЎ

Больш чым трыццаць прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу заявілі аб сваім намеры ўдзельнічаць у перадвыбарным марафоне. Яны, на думку старшыні пастаяннай камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоля Красуцкага, і складуць аснову будучага прафесійнага парламента.

## У БЕЛАРУСЬ ПРЫБУДУЦЬ ЕЎРАПЕЙСКІЯ ПАРЛАМЕНТАРЫІ

Напярэдадні асенніх дэпутацкіх выбараў нашу краіну наведае дэлегацыя парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Паводле папярэдніх даных, візіт адбудзецца 31 ліпеня – 4 жніўня. Яго асноўнай мэтай заяўляецца вывучэнне змяненняў у сітуацыі ў Беларусі за мінулы перыяд, а таксама азнаямленне з ходам падрыхтоўкі да будучых парламенцкіх выбараў. У складзе дэлегацыі будуць знаходзіцца старшыня камісіі ПАСЕ па палітычных пытаннях Тэры Дэвіс, а таксама прадстаўнікі сакратарыята ПАСЕ.

## ПРАДПРЫЕМСТВЫ ХАРЧОВАЙ ГАЛІНЫ – ЗОНА ДЗЯРЖАЎНАГА ІНТАРЭСУ

Мы забяспечваем інтарэсы народа і дзяржавы на тых прадпрыемствах, якія некалі сваёй працай стварыў народ. Гэта мая прынцыповая пазіцыя на працягу усіх гадоў прэзідэнцтва, – заявіў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 20 ліпеня ў ходзе нарады па праблемах урэгулявання ўзаемаадносін паміж прадпрыемствамі канцэрна Белдзяржхарчпрам і Мінсельгасхарча.

Народ павінен добра харчавацца і мець прадукцыю ўласнай вытворчасці толькі найвышэйшай якасці, падкрэсліў прэзідэнт. Ён лічыць, што для гэтага важна ўрэгуляваць узаемаадносіны паміж пастаўшчыкамі сыравіны і перапрацоўшчыкамі сельскагаспадарчай прадукцыі. З гэтай мэтай плануецца змяніць статус дзяржаўнага канцэрна Белдзяржхарчпрам. Ён набудзе поўную самастойнасць з выхадам са складу Мінсельгасхарча.

У падпарадкаванне канцэрна будуць перададзены усе прадпрыемствы харчовай прамысловасці, у тым ліку і лікёра-гарэлачныя заводы. У канцэрн увойдуць і тыя, хто займаецца вытворчасцю прадуктаў харчавання – цукровыя і піваваранныя заводы, кандытарскія фабрыкі. Гэтыя беларускія прадпрыемствы становяцца зонай дзяржаўнага інтарэсу, – падкрэсліў прэзідэнт.

## ПАЦЯРПЕЛЫЯ АД ГЕНАЦЫДУ АТРЫМАЮЦЬ КАМПЕНСАЦЫЮ

Грамадзяне Беларусі, якія сталі ахвярамі генацыду ў гады другой сусветнай вайны, змогуць атрымаць грашовую кампенсацыю ўжо сёлета. Адпаведнае рашэнне прынята 17 ліпеня ў Берліне на заключным, дванаццатым, пленарным пасяджэнні падрыхтоўчага камітэта фонду "Памяць, адказнасць, будучыня", што быў заснаваны урадам ФРГ і германскімі прадпрыемствамі для вырашэння пытання выплаты кампенсацый з боку Германіі ахвярам прымусовай працы ў час другой сусветнай вайны. Такім чынам, у Беларусі кампенсацыю змогуць атрымаць 170 тысяч былых паднявольных рабочых, якія засталіся ў жывых. Доля нашай рэспублікі складзе 694 мільёны нямецкіх марак.

## МЫТНЯ ПЛАН ВЫКАНАЛА

Напярэдадні маючай адбыцца справаздачы ўрада ў Прэзідэнта краіны, намечанай на канец ліпеня, на пасяджэнні калегіі Дзяржаўнага мытнага камітэта 20 ліпеня быў разгледжаны ход выканання мытнямі Беларусі дзяржаўнага плана паступлення плацяжоў у рэспубліканскі бюджэт за першае паўгоддзе. Так, па стану на 1 ліпеня гэтага года ў бюджэт ад дзейнасці мытных органаў пералічана 103,04 мільярда рублёў, план выкананы на 100,3 працэнта. Найбольшы ўклад у выкананне планавых заданняў унеслі Мінская рэгіянальная, Гомельская, Гродзенская рэгіянальная, Заходні Буг, Брэсцкая і Магілёўскія мытні. Іх агульны ўклад склаў 82,2 працэнта ўсіх плацяжоў.



*На здымку: Ніна Лук'янава (злева) і Вера Яфімаўна Данільчук. Ніна – выхаванка, Вера Яфімаўна – педагог-дэфектолаг дашкольнага дзіцячага дома № 1 для дзяцей сірот больш чым з дваццацігадовым педагагічным стажам.*

*Незвычайныя людзі працуюць у гэтай сумнай дзіцячай установе. Сумнай таму, што большасць з выхаванцаў – сіроты пры жывых бацьках. Зразумела, што сёння тут ім лепей. Але нішто, ніхто не зможа замяніць ім сям'ю, родных, бацькоў. А незвычайнасць у тым, што няма тут абыякавых, выпадковых і галоўнае бессардэчных працаўнікоў.*

*Згадзіцеся, ці ж можа сірата з такой шчырасцю прытуліцца да пляча дрэннага чалавека? Бадай, наўрад.*

*Хочацца пажадаць, каб Ніна Лук'янава ў сваім далейшым жыцці часцей сустракалася з добрымі людзьмі, а галоўнае, каб сама змагла падставіць сваё плячо таму, хто мае патрэбу ў дапамозе, а Вера Яфімаўна, як і ўвесь калектыў дзіцячага дома, заўсёды заставаліся такімі: дружнымі, прафесійнымі і сардэчнымі.*

*Аляксандр ФІСЕНКА.*

## Новая сістэма ацэнкі ведаў прабівае сабе дарогу

Эксперымент з увядзеннем у школу дзесяцібальнай ацэнкі ведаў навучэнцаў пашырыць сваю геаграфію. Калі раней гэты эксперымент праводзіўся ў адной школе кожнага раёна рэспублікі, то з новага навучальнага года кожная вобласць выбярэ для яго ўкаранення цэлы раён, у якім усе школы будуць ставіць адзнакі па-новаму. А яшчэ праз год-другі такая норма стане абавязковай для усіх агульнаадукацыйных школ.

На думку Міністэрства адукацыі новая сістэма адзнак дапамагае зняць псіхалагічны страх у дзяцей і дае магчымасць настаўнікам больш аб'ектыўна ацэньваць веды.

У нашым горадзе эксперымент праводзіўся ў мінулым навучальным годзе толькі ў сярэдняй школе № 14 з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, прычым ў частцы пятых-адзінаццатых класаў і знайшоў станоўчы водгук у настаўнікаў. Таму ў новым навучальным годзе ён будзе працягвацца і пашырацца.

*Г. ЯФІМАЎ.*

## Спектакль выстаўлены кандыдатам на фестываль

Апошняй па ліку пастаноўкай тэатра драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча ў мінулым сезоне была крымінальная драма "Зорка над дахам" па п`есе маладога пецярбургскага драматурга Таццяны Долгавай. Пастаноўку ажыццявіла актрыса і рэжысёр Ларыса Бархатава. Спектакль гэты распавядае пра сучасную моладзь, пра тое, да якіх страшэнных вынікаў прыводзіць наркаманія, адной з прычын якой з`яўляецца нежаданне бацькоў зразумець сваіх дзяцей, абыякавасць да іх унутранага свету.

Спектакль прагледзелі члены адборачнай камісіі фестывалю творчай моладзі, які адбудзецца ў Гродна, С. Дзмітрыеў і Г. Забелла. Яны рашылі прадставіць гэты спектакль кандыдатам для ўдзелу ў фестывалі. Адначасова артысты Андрэй Воўчак і Ларыса Пакрэўская прадстаўлены кандыдатамі на конкурс, які павінен вызначыць лепшых маладых выканаўцаў мужчынскай і жаночай роляў.

*Г. ЯФІМАЎ.*

## Вучылішча ліквідавана

Прафтэхвучылішча № 91 у бягучым навучальным годзе не будзе функцыянаваць, бо яно ліквідавана. Будынак вучылішча і іншая яго маёмасць перададзены прафтэхвучылішчу № 226 гандлю. Дарэчы, тут будуць давучвацца дзве групы будаўнікоў, а астатнія групы па іншых спецыяльнасцях размеркаваны па вучылішчах горада.

## ЗА АДНОЙ БУТЭЛЬКАЙ ТРЭБА АББЕГЧЫ ПАЎГОРАДА, ці Куды знікла мінеральная вада "Бабруйская"

У наш складаны час мы жывем так, як пяецца ў вядомай песні: "А мне заўсёды чагосьці не хапае...". Не хапае, а дакладней знікаюць з паліц крамаў то запалкі, то соль, то цукар, то штосьці іншае. А тут у сярэдзіне лета знікла мінеральная вада "Бабруйская". Пра гэта напісала ў рэдакцыю нашай газеты наша чытачка, работніца АТ "Вагапрыбор" Н. І. Абрамава. Вось вытрымкі з яе пісьма: "Я пастаянна купляю мінеральную лячэбную ваду "Бабруйская". Вось ужо два тыдні, ідучы з работы, захожу ў крамы №№ 1, 2, 3, "Вясна", 12, 49, паліцы якіх застаўлены дарагой вадой і рознымі напоямі, а патрэбнай мне "Бабруйскай" няма нідзе. Ад прадаўцоў не змагла даведацца аб прычынах яе адстунасці. Таму прашу рэдакцыю адказаць, чаму знікла патрэбная танная вада?"

Мне не верылася, што ў летні перыяд знікла вада мясцовай вытворчасці. Таму і прайшоўся па названых і іншых гандлёвых кропках. Паліцы крамаў застаўлены рознымі "дарыдамі", "жамчужнымі", "трайпламі", "фантамі", "кока-коламі", "каскадамі" і іншымі чужымі напоямі па цане 227 рублёў за бутэльку і вышэй. А вось нашай мясцовай і самай таннай па цане 37 рублёў без вартасці тары не ўбачыў.

– Вада "Бабруйская" ужо даўно прададзена, – адзначыла намеснік загадчыка магазіна № 12 С. Ніканава. – Пакупнікі цікавяцца, тэлефануюць, а нашы заяўкі не выконваюцца.

Размова праходзіла ў гандлёвай зале. Адна з пакупніц з абурэннем сказала: "Палову горада аббегала за бутэлькай гэтай вады і толькі ў раёне плошчы імя Леніна знайшла яе. Спяшайцеся, паколькі мне сказалі, што прадаюць апошнія скрынкі".

Як мне гаварылі і прадаўцы, і загадчыкі крамаў, і пакупнікі, "Бабруйскую" разбіраюць скрынкамі. Гэтая вада і лячэбная, і танная. Да прыкладу, пакупнік за яе 20 бутэлек выкладвае 740 рублёў, за гэтыя грошы можна купіць той жа "жамчужнай" усяго тры паўтаралітровыя бутэлькі. Пры нашай хранічнай галечы пакупнікі, асабліва пенсіянеры, ведаюць, што купляюць. Вось вам і першы адказ.

За далейшымі тлумачэннямі звярнуўся ў гархарчгандаль.

– Не можа такога быць, каб у нашых крамах не было вады "Бабруйскай", – са здзіўленнем адказаў намеснік дырэктара па гандлю В. Шафрановіч. – Для яснасці патэлефануйце ў гандлёвы аддзел гархарчгандлю.

Тэлефаную туды. Як сказала ў размове таваразнаўца гэтага аддзела Н. В. Кукшынава, трэці квартал года яшчэ толькі пачаўся. У другім жа квартале па фондах было выдзелена 90 тысяч бутэлек, а атрымана 132 тысячы. Але і гэтай колькасці аказалася недастаткова. А яшчэ не сказаў аб колькасці бутэлек, атрыманых іншымі гандлюючымі арганізацыямі горада. Але аб гэтым крыху пазней. Пакуль жа вада, як у свой час масла, сыр, цукар, стала дэфіцытнай, размяркоўваецца па разнарадцы. А пакупнікі ў пошуку бутэлькі таннай вады бегаюць па ўсяму гораду.

Мне падумалася, што наш піваварны завод, які займаецца вытворчасцю гэтай вады, павінен "заліць" ёю ўвесь горад. На заводзе ёсць свая свідравіна – толькі пампуй і паспявай разліваць .

Еду на прадпрыемства, сустракаюся з намеснікам дырэктара завода І. М. Турам. Уводжу яго ў курс справы, прашу растлумачыць сітуацыю.

– У другім квартале па заяўках гандлю мы павінны даць гораду 230 тысяч бутэлек. Фактычна адпусцілі 375 тысяч. Гэта амаль палова ад агульнай вытворчасці. Астатняя вада адгружана па разнарадцы ў іншыя арганізацыі вобласці. У бягучым квартале мяркуем выпусціць столькі ж. Больш вырабіць не можам.

З далейшай размовы з Іванам Міхайлавічам даведаўся, што запас вады вялікі. Адзін раз у тыдзень тут пампуюць ваду са свідравіны, разліваюць яе. Адна з прычын такога становішча – марудная абарочваемасць і вяртанне гандлю бутэлек. Таму па распараджэнню ўпраўлення гандлю гарвыканкома пакупнікам адпускаюць пяць бутэлек вады ў адны рукі без вяртання тары. Недастаючую тару прадпрыемства купляе ў гродненскага шклозавода. Зазначу, па новай цане, страчваючы пры гэтым 17 рублёў на кожнай бутэльке.

Па гэтай і іншых прычынах сёння вытворчасць вады "Бабруйская" стратная. Яе стратнасць складае мінус 13 працэнтаў. Адсюль калектыў працуе па прынцыпу: менш выпусціў – менш страціў. Тут жа трэба находзіць выйсце, каб для пакупнікоў лячэбная танная вада пастаянна была ў продажы.

**М. МАЦВЯЁНАК, грамадскі карэспандэнт "БЖ"**

# Горад-метро, яго насельнікі і вуліцы

## Уражанні і назіранні з нагоды адной прыватнай паездкі



Буйныя гарады заўсёды ўражваюць і найперш – сваёй шматаблічнасцю. Сталіца Расійскай Федэрацыі – горад Масква – не выключэнне. Я не быў тут каля дзесяці год, і, вядома, горад вельмі змяніўся, папрыгажэў, пачысцеў і г.д. Ён, можна *сказаць, стаў сапраўдным еўрапейскім* горадам. Але больш за ўсё ўражвае ў Маскве – гэта яе метро. Сюды адразу трапляеш з Беларускага ці іншага чыгуначнага вакзала і становішся *часцінкай таго вялікага і* вірлівага натоўпу, які быццам бы падхоплівае цябе і нясе немаладу куды.

Так, метро – гэта найперш натоўп, вялікі людскі паток, які мэтанакіравана *рухаецца па сваёй зададзенай* праграме. Не трэба спыняцца, багата разважаць што ды як, а, ловячы на хаду вачыма ды вушамі інфармацыю, імчаць услед за натоўпам. Тут усё проста: *эскалатар, прыступкі, платформа*, вагон, у якім ёсць дакладныя схемы станцый метро з усімі іх назвамі. Затым зноў платформа, прачытванне розных вывесак-указальнікаў, пераходы, перасадкі, *услухоўванне ў* словы-абвесткі ў вагоне, каб не прамінуць сваю станцыю, і вось ты ўжо на патрэбным месцы.

Метро – гэта не толькі вялікае зборышча *людзей. Нават з эскалатара* на цябе пазіраюць рэкламныя плакаты, у памяшканнях метро і каля яго заўсёды нешта прадаецца: то газеты і часопісы, то кветкі, то сувеніры ці іншыя патрэбныя рэчы, *якія можна* купіць на хаду. А заморская садавіна, гародніна, марожанае ды нешта іншае смачнае – усё гэта прапануецца на кожным кроку. Па вагонах падземнага электрацягніка часта ходзяць *маладыя* гандляры з дробным таварам, якія можна купіць значна танней, чым у *краме*.

Нямала тут і жабракоў – старых мужчын і жанчын альбо маладых жанчын з маленькімі дзецьмі, якія просяць грошай. Адны нешта трымаюць, каб ім *кінулі рубель, другі ці хоць бы капейкі*, а іншыя вешаюць нешта кшталту шыльдачкі альбо ставяць яе побач з сабой. Прачытаўшы на хаду, што там напісана, той-сёй што-небудзь і падкіне.

... *Але вось метро выносіць цябе на* Кіеўскі, Яраслаўскі ці іншы чыгуначны вакзал, адкуль можна перасесці на падмаскоўныя электрацягнікі. Тут гэтакая ж мітусня і паспешлівасць, бо вось-вось *дзверы зачыняцца, і электрычка адыйдзе*, хоць і ходзяць яны даволі часта. Таму ў першых вагонах заўсёды цесна, але праз некалькі хвілін пасажыры разыходзяцца па іншых вагонах. Не *паспееш сесці, як чуеш: добры дзень, шаноўныя пасажыры!* Я вам прапаную... І вось так усе 40 хвілін, што мы ехалі да горада Пушкіна, адзін гандляр змяняў іншага. Што прадаюць? Ды багата чаго! *Школьна-пісьмовыя прылады, кнігі*, шкарпэткі мужчынскія, гольфы, бялізнавы трыкатаж, парфумерыю, зубную пасту, карты-схемы аўтамабільных дарог... Нярэдка пасажыры купляюць тое, што *ім трэба: у вагонных гандляроў танней*.

І вось так увесь дзень і вечар пасярод натоўпу, які выносіць цябе на гэткую ж шматлюдную вуліцу. Маскоўскія вуліцы чыстыя і прыбраныя, добра за*асфальтаваныя*, з *мноствам кіёскаў*, лавак, розных крамаў ды універсамаў.

Будучы ў Маскве, нельга не прайсці па Старым Арбаце (ёсць і Новы Арбат), які пешаходны ад пачатку і да канца яго. Хто быў у Адэсе, той ведае, што прайсціся па Дэрыбасаўскай – адно задавальненне. Ад шпацыру па Старым Арбаце *задавальнення і ўражанняў атрымліваеш куды болей*. Па абодвух баках вуліцы мноства кафэ, бараў, рэстаранаў і рэстаранчыкаў – і ўсё гэта вынесена на самую вуліцу. Хоць гуляй, хоць забаў*ляйся ўвесь дзень і вечар. І пасярод* вуліцы абавязкова нешта прадаецца: ці то дарагія сувеніры, ці то карціны мастакоў, якія адначасна робяць тут свае выставы, ці то нейкая дробязь, прысмакі і г.д. *І на кожным кроку паслугі, паслугі...* Усё гэта ў большасці разлічана на прыезжых ды на багатых замежных турыстаў. Тут ладзяцца нават імправізаваныя канцэрты.

*Ходзячы па Маскве, я звяртаў увагу* і на назвы вуліц. І нідзе не ўбачыў нават прыкметаў рэвалюцыйнасці, пралетарскасці альбо міжнароднай салідарнасці ў назвах вуліц і праспектаў, што мела *месца ў мінулыя гады. А вось ад назваў* вуліц, прыкладам, Ільінка ці Варварка неяк больш утульна і па-свойму адчуваеш сябе ў гэтым шматаблічным горадзе.

*Насельнікаў Масквы*, ці тутэйшых, няцяжка адрозніць ад прыезжых. Масквічы ў большасці заклапочаныя, імклівыя і мэтанакіраваныя. Яны амаль ніколі не зважаюць на паслугі з прапа*новамі і запрашэннямі, нават часам* робяць выгляд, што не чуюць, калі да іх звяртаешся на хаду. Не заўважаюць *нікога і нічога*. Яны спяшаюцца, спяшаюцца...

Зусім бедных у Маскве няма. Ёсць багатыя, людзі з сярэднім дастаткам і тыя, што жывуць больш сціпла. Але і да тых,*якія па маскоўскіх мерках* жывуць сціпла, нам не дацягнуцца. Да прыкладу, людзі з сярэднім дастаткам, ідучы на вяселле да сяброў, нясуць на падарунак 300 долараў ЗША з аднае сямей*най пары*. Жабруюць у метро ды ў падземных пераходах альбо прыезджыя, альбо тыя, што прыехалі сюды і трапілі ў бяду, альбо лайдакі ці выпівакі.

Падтрымцы матэрыяльнага дабрабыту масквічоў спрыяюць невысокія па іх заробках кошты на прадукты і розныя прамтавары. Кошты на прадукты ёсць такія як у нас, ёсць ніжэй, а ёсць вышэй, чым у нас. Тыя прадукты, якія даражэй *за нашыя*, – альбо замежныя, альбо вельмі высокай якасці і такога знешняга афармлення, што прыемна паглядзець, а не тое, што ў рукі узяць.

Гандлёвы сервіс – непараўнальны з нашым. Цябе абслугоўць як мае быць у тым жа Падмаскоўі. І цэны тут такія ж, як у Маскве, гэта значыць, ніжэй за некаторыя нашыя. Нават у падмаскоўным горадзе Пушкіна – вялікі выбар прадуктаў, а ў крамах табе заўсёды радыя. У нас, каб купіць узімку тварагу ў малочнай краме, трэба ўставаць ледзьве не з пеўнямі і ехаць у выхадны дзень да яе адкрыцця. У Падмаскоўі такіх праблем *няма: нават узімку малочныя і кісламалочныя прадукты там на выбар*.

Праўда, у тым самым Падмаскоўі, як і па ўсёй Расіі, зарабляюць набагата меней, чым у Маскве. Нават у невялікім пасёлку (зверасаўгас "Пушкінскі") людзі меней за 40 долараў ЗША, ці 40000 беларускімі рублямі, не зарабляюць. У нас жа вялікая колькасць людзей зарабляе на 25-20 тысяч нашымі, ці 20-25 долараў ЗША.

Нават людзі з Падмаскоўя, не кажучы пра масквічоў, не хочуць вяртацца ў часы былога Саюза ССР – у пе*рыяд да яго распаду*. Расіяне ўжо звыкліся з добрым абслугоўваннем, з самымі рознымі паслугамі і прапановамі, з вялікім выбарам прадуктаў у крамах, прытым – дабраякасных. Яны *не хочуць вяртацца ва ўчарашні* дзень, звязаны з дэфіцытам, хамствам і грубасцю ў абслугоўванні.

Паназіраўшы вось гэтак ды прааналізаваўшы ўбачанае і пачутае, я зрабіў выснову, што мы *адстаем ад Расіі* ў эканамічным развіцці, у пераўтварэннях эканомікі, правядзенні рынкавых рэформ і па ўзроўню жыцця ўвогуле. У прыватнасці, значна адстаем ад цэнтральных яе рэгіёнаў. Нават у небагатым Падмаскоўі тутэйшыя на*сельнікі* паўсюдна будуюць дачы і знаходзяць нейкія дадатковыя заробкі на гэтыя мэты. Будуюць не самі і не рукамі расіян, а рукамі беларускіх і ўкраінскіх майстаравых хлопцаў, якія *едуць туды, каб зарабіць на кавалак* хлеба, прынамсі, большы, чым за тую ж самую працу можна атрымаць дома.

***Леанід КУЛЯВЕЦ.***

*О молодёжи и для неё*

# "ЖАРКИЙ" ИЮЛЬ

На исходе июль. Хоть и не баловала нас погода в этом месяце, но для тех, кто трудился в молодёжных лагерях, он оказался "жарким" месяцем. Достаточно оценить сделанное. А оно впечатляет. Ведь ребята работали на себя, на своё любимое учебное заведение, где самим же и учиться в обновленных кабинетах, проходить практику в новых мастерских (сделанных из вестибюлей, комнат в общежитиях), каждый день проходить по приведенным в порядок своими руками территориям.

А если еще добавить интересный досуг с дискотеками, экскурсиями, спортивными соревнованиями, походами, то понятно, почему многие из участников говорят уже о подобном лагере в будущем.

Я уже рассказывала о молодёжных лагерях "Юность-1 и 2", "Виктория", "Прометей", работавших в ВПУ СП, ВПУ Бон и ПТУ-142.

А всего в июне-июле в городе работало 7 молодёжных лагерей, организованных отделом по делам молодежи горисполкома. Несколько слов хотелось бы сказать о лагере по работе с детьми-инвалидами "Надежда", который существует в городе уже четвертый год. Благодарность заработали все: и мы от родителей и детей-инвалидов за организацию, и администрация вечерней школы № 7, не отказавшаяся принять у себя этот лагерь, и ребята-волонтеры из средней школы № 27, и ВПУ ДПИ, а также начальник и воспитатели лагеря за интересно и с пользой организованное время детей-инвалидов. Внимания заслужил и замечательный военно-спортивный лагерь "Спартаковец". Таким он получился благодаря активному участию и поддержке управления внутренних дел горисполкома и командования в/ч 5527.

Знакомясь с ребятами экологического лагеря "Эколог", так и хочется воскликнуть: "Ба!" Знакомые всё лица!". А потому, что лагерь работает не первый год, и многие участники лагеря в нем уже старожилы. И вот, глядя на них, я не могу сдержать удивления. Казалось бы: каникулы – спи вволю, смотри телевизор, делай, что душе угодно. Ан нет же: надо им рано вставать, в буквальном смысле слова "вкалывать" в городском парке, до мозолей натирать руки на заготовке сена на станции юннатов, убирать территорию детского дома и городские улицы. Такие ребята своим бескорыстным трудом впрах разбивают бытующее мнение о том, что наша молодежь: ничего не хочет и не умеет. И еще добавлю, что 3 строительных молодёжных отряда из нашего города уже работает в Молдове. Надо было 120 человек, а уехало 135. И только потому, что больше брать было уже некуда.

Финансовую помощь и организационную поддержку отделу по делам молодёжи оказала Могилевская Лига добровольного труда молодёжи и штаб студенческих отрядов. Особая благодарность от нас ее директору А. П. Бабакову. Июль оказался для нас не только "жарким", но и знаменательным. Сухие строки интервью о созданном в городе молодёжном многопрофильном центре "Феникс" не позволили в полной мере рассказать обо всем, чем он будет заниматься. Ну да всё у нас впереди. Однако, замечу, что самые большие надежды мы возлагаем на него именно в том направлении, о котором эта статья – в организации вторичной занятости молодёжи. И надеюсь, что теперь не только в летнее время, а и в течение всего года подростки и молодёжь города во внеучебное время смогут найти применение своим силам и энергии.

***Н. ЖУРАВЛЁВА,***
***заведующая отделом по делам молодёжи горисполкома.***

# Вывучаючы навуку перамагаць...



У адпаведнасці з планам падрыхтоўкі войскаў праблемы арганізацыі абароны гарадоў і населеных пунктаў сумесна з тэрытарыяльнымі войскамі абмеркаваны на навукова-практычнай канферэнцыі, што адбылася у 5-м гвардзейскім армейскім корпусе.

Апрача афіцэраў упраўлення ў рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел кіруючы камандны і інжынерна-тэхнічны састаў часцей і злучэнняў, старшы афіцэр цэнтра ваенных даследаванняў пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь, падпалкоўнік Ю. Расказаў, вялікая група афіцэраў Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь на чале з начальнікам ваенна-навуковага цэнтра палкоўнікам Б. Салагубчыкам і дацэнтам кафедры тактыкі палкоўнікам С. Самсонавым.

Адкрыў канферэнцыю і выступіў з дакладам камандзір аб'яднання гвардыі палкоўнік Л. Сурынт. Дакладчык, спасылаючыся на вопыт вядзення вайны ў Афганістане, баявых дзеянняў федэральных войскаў у Чэчні і іншых шматлікіх лакальных войнаў і канфліктаў, адзначыў, што абарона гарадоў заўсёды насіла стратэгічны характар і ад яе зыходу часта залежылі суадносіны сіл проціборствуючых бакоў у канкрэтнай аперацыі.

Сваімі думкамі аб спецыфіцы і асаблівасцях праблем, якія абмяркоўваліся, падзяліліся выступаўшыя з садакладамі начальнік разведкі падпалкоўнік А. Стасішын, начальнік аператыўнага аддзела штаба корпуса палкоўнік А. Краўчанка, начальнік навукова-даследчай лабараторыі ваенна-навуковага цэнтра кандыдат ваенных навук палкоўнік В. Чубрык, палкоўнікі А. Біткін, А. Філіпьеў, В. Несцярэнка, А. Макараў, В. Жандараў, В. Лепрэтар і маёр С. Лях.

У цэнтры ўвагі ўдзельнікаў дыскусіі знаходзіўся бясцэнны вопыт арганізацыі ўсебаковага забеспячэння баявых аперацый на прыкладах гераічнай абароны савецкіх гарадоў войскамі Чырвонай Арміі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Невыпадкова яшчэ 27 верасня 1942 года газета "Нью-Йорк геральд трыбюн" пісала аб бітве за Сталінград: "Такія баі... вядуцца са спякучай нянавісцю, са страсцю, якой не ведаў Лондан нават у самыя цяжкія дні германскіх паветраных налётаў. Але менавіта такімі баямі выйграюць вайну".

Удзельнікі канферэнцыі прынялі разгорнутае рашэнне, у якім рэкамендавана ўкараніць у практыку аператыўна-тактычнай падрыхтоўкі і ў тэматыку індывідуальных заданняў афіцэрскага саставу вывучэнне пытанняў, звязаных з арганізацыяй абароны гарадоў *і населеных пунктаў* сумесна з тэрытарыяльнымі войскамі.

Вынікі зацікаўленай размовы, якая адбылася, падвёў дакладчык – гвардыі палкоўнік Л. Сурынт. Ён жа ўручыў медаль "У памяць 10-годдзя вываду савецкіх войскаў з Афганістана" воіну-інтэрнацыяналісту, падпалкоўніку П. Русіну.

***Падпалкоўнік Віктар ФІЛОНАЎ.***

**На здымку:** ***начальнік разведкі корпуса падпалкоўнік А. Стасішын каменціруе рашэнне генерала К. Ракасоўскага аб абароне горада Смаленска ў ліпенічніўне 1941 года.***
**Фота аўтара.**

## Латышы прымаюць беларускія рублі

У штотыднёвіку "Аргументы и факты" змешчана прыемная для беларусаў інфармацыя. Паміж Нацыянальным банкам Беларусі і Банкам Латвіі заключана пагадненне аб арганізацыі разлікаў.

Па дадзеных Упраўлення інфармацыі беларускага Нацбанка, цяпер разлікі і плацяжы паміж юрыдычнымі і фізічнымі асобамі дзвюх краін ажыццяўляюцца як у нацыянальных валютах, так і ў СКВ у адпаведнасці з заканадаўствам, якое дзейнічае на тэрыторыі кожнай з дзяржаў.

Пры заключэнні дамоў (кантрактаў) на пастаўку прадукцыі, аказанне паслуг, выкананне работ і г. д. беларускія і латвійскія суб'екты гаспадарання пры разліках паміж сабой вызначаюць валюту плацяжу і форму разліку самастойна.

***Г. ЯФІМАЎ.***

*Служба інфармацыі "БЖ"*

# Пашпарт для немаўляці

З 1 верасня мінулага года ўведзены новы парадак выезду дзяцей да 16 год за межы Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае афармленне дзіцяці пашпарту з выязной візай ва ўсе краіны свету.

Аднак далёка не ўсе пра гэта ведаюць. І каб у час пераезду цераз мяжу іншай дзяржавы не было ніякіх непрыемнасцяў, мы вырашылі больш падрабязна пра гэта напісаць. Нам дапамагае в.а. начальніка пашпартна-візавай службы Ленінскага РАУС Ліля ЮРКАВЕЦ.

– Згаданае палажэнне, – заўважае Ліля Уладзіміраўна, – датычыць дзяцей ад нараджэння і да 16-гадовага ўзросту. *Пры гэтым выязная* віза ва ўсе краіны свету для такіх дзяцей афармляецца не толькі пры выездзе ў краіны далёкага замежжа, а і ў рэспублікі былога Саюза ССР – на Украіну, у Расію, Малдову, Кыргызстан і г.д.

Пры выездзе ў краіны бліжняга замежжа ( рэспублікі былога Саюза ССР) падлеткам з 16-ці да 18-ці год і дарослым такую візу мець неабавязкова. А вось пры выездзе ў краіны далёкага замежжа, уключаючы краіны Балтыі (Літва, Латвія, Эстонія), выязную візу ва ўсе краіны свету патрэбна мець ўсім.

Варта звярнуць увагу на такую ака*лічнасць. Дзеці і падлеткі да 18-ці год* за межы Беларусі едуць з бацькамі ці без іх, але ў суправаджэнні сваякоў, знаёмых альбо групавода. У дадзеным выпадку на выезд патрэбен дазвол бацькоў, афармлены ў натарыяльнай канторы.

А цяпер скажу наконт пашпартоў, якія былі выдадзены грамадзянам Рэспублікі Беларусь яшчэ ў часы існавання Саюза ССР. Яны сапраўдныя, тэрмін іх дзеяння працягнуты да 31 снежня 2001 года. Але не варта чакаць сканчэння згаданага тэрміну. Гэта найперш тычыцца тых асоб, якім патрэбна змяніць фота па дасягненню 25 і 45 год. З афармленнем пашпарта *новага ўзору трэба паспяшацца* і тым асобам, што змянілі прозвішча, альбо маюць на руках даведку формы 9, якая замяняе пашпарт.

І пра апошняе. Тым асобам, якім споўнілася 15, 24 ці 44 гады, не трэба чакаць спаўнення 16, 25 альбо 45 год, а неадкладна ісці ў пашпартна-візавую службу і атрымліваць пашпарт альбо зменьваць у ім фота. У такім разе пашпарт афармляецца да 25, 45 і 100 гадоў.

***Леанід КУЛЯВЕЦ.***

